# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

24.01.13-30.01.13 г.



## ДЗЯРЖСАЙТЫ АДСТАЮЦЬ




НА ЦЭЛАЕ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

СТАР. 4–5

## ЧАМУ ВЫМІРАЕ



“САЦЫЯЛЬНАЯ” ДЗЯРЖАВА?

СТАР. 6-7


# ЯК НАС ШТОМЕСЯЦ “КІДАЮЦЬ” НА 200 ДОЛАРАЎ

Здзейснілася! Паводле звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэта, сярэдні заробак па Беларусі зноў перавысіў 500 доларaў.

## ЯК ВЫМЯРАЦЬ СЯРЭДНЮЮ ТЭМПЕРАТУРУ ПА БАЛЬНІЦЫ

Гэтае шчасце здарылася ў снежні. У апошні месяц 2012 года сярэдні заробак павялічыўся адразу на 11% і дасягнуў 4 мільёнаў 741 тысячы рублёў “бруднымі” (рост з 497 да 550 доларaў).

“Сравнивая свои зарплаты с зарплатами в других странах, мы часто не задумываемся над тем, что живем и ходим в магазины не в Калифорнии, а в Беларуси. Мы платим совсем другие деньги за коммунальные услуги, детские сады и многое другое”.

Аднак не спяшайцеся пляскаць у ладкі з гэтай нагоды, калі вы не супрацоўнік Нацыянальнага банка або дзяржкамітэта па навуцы і тэхналогіях. Бо ўлада не роўна дзеліць.

Партал TUT.BY пацікавіўся, наколькі палепшыўся дабрабыт чыноўнікаў. Лічбы ашаламляльныя: у снежні ў параўнанні з лістападам сярэдні заробак у вышэйзгаданым дзяржкамітэце скокнуў адразу на 78% і перавысіў 8 мільёнаў рублёў.



*Абяцанкі-цацанкі*

Не быў пакрыўджаны і Нацыянальны банк. Там за месяц сярэдні заробак павялічыўся “ўсяго” на 60%, але ў натуральных лічбах ён быў больш чым 8 з паловай мільёнаў.

На трэцім месцы — пракуратура з 58% і 7 мільёнамі, далей ідуць Міністэрства эканомікі, Белтэлерадыёкампанія, мытня, і замыкае першую дзясятку па росце заробкаў у снежні сам Нацыянальны статыстычны камітэт.

Цяпер зразумела, адкуль такі шалёны прырост “сярэдняй тэмпературы па бальніцы”. Забяспечаны ён, галоўным чынам, дзякуючы розным прэміям, прымеркаваным да Новага года, “трынаццатым” заробкам і гэтак далей. Таму, хутчэй за ўсё, заробак па выніках студзеня будзе больш сціплым.

## МЫ НЕ Ў КАЛІФОРНІІ!

Аднак беларусам тлумачаць, што насамрэч яны маюць значна больш, чым атрымліваюць на рукі. Дэкан эканамічнага факультэта БДУ **Міхаіл Кавалёў** яшчэ да абвяшчэння апошніх звестак сцвярджаў, што сярэдні заробак у нас сёння перавышае 700 доларaў. Тлумачыў ён гэта так: беларусы плацяць значна менш падаткаў ды робяць меншыя адлічэнні ў сацыяльныя фонды, чым грамадзяне іншых краін. Таму Кавалёў мяркуе, што да афіцыйнага заробку трэба накідваць пару мільёнаў.

Яшчэ далей пайшоў віцэ-прэм’ер **Анатоль Тозік**. Намеснік старшыні ўрада заявіў, што, паводле парытэту здольнасці пакупнікоў, сярэдняя зарплата ў Беларусі складае больш за 1200 доларaў. І абгрунтаваў гэта так:

— Сравнивая свои зарплаты с зарплатами в других странах, мы часто не задумываемся над тем, что живем и ходим в магазины не в Калифорнии, а в Беларуси.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

# КУЛЯШОВУ НЕ СОРАМНА ЗА ПАДЗЕІ ПЛОШЧЫ

**Як паведамлялася раней, былы міністр унутраных спраў Анатоль Куляшоў уладкаваўся ў выканкам СНД на пасаду дарадцы аддзелу супрацоўніцтва ў сфэры барацьбы са злачыннасьцю, тэрарызмам і наркапагрозай, паведамляе Радыё Свабода.**

Ён кажа, што справы яго ідуць добра, на новай пасадзе ён не мае ніякіх прэферэнцый. Спачатку Куляшоў адмаўляўся ад інтэрв’ю: *«Я ўжо вам столькі надаваў гэтых інтэрв’ю, што вам, відаць, ужо чытаць паднадакучыла гэтыя інтэрв’ю».*

Потым ён пагутарыў праз тэлефон. На сваёй пасадзе міністра ўнутраных спраў у 2010 годзе Анатоль Куляшоў кіраваў разгонам Плошчы 19 снежня. Ці памяняў ён сваё стаўленне да гэтых падзеяў?

Куляшоў: *«Я сваіх пазіцый, як і стаўлення да ўсяго зробленага, не мяняў і не мяняю. Я ж не палітычная праститутка. Я — чалавек слова, калі я сказаў, то раблю. І мяняць сваю пазіцыю адносна таго, што было, я не збіраўся, не збіраюся і ніколі гэтага не зраблю. Бо я дзейнічаў у рамках закона, у рамках сваіх паўнамоцтваў, якія ні на ёту не перавысіў».*

«То бок вам не сорамна?»

Куляшоў: *«Не сорамна».*

**АЛЕСЬ ДАШЧЫНСКІ**

**Каб аформіць падпіску “Тут і цяпер”,** трэба адправіць смс са сваім адрасам на нумар **8 10 370 61 770 680**

# ШТО ДЛЯ ВАС ЗНАЧЫЦЬ ПАЎСТАННЕ 1863 ГОДА?

23 студзеня 1863 года, 150 гадоў назад, пачалося паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Дагэтуль вядуцца сур'ёзныя спрэчкі наконт яго ўрокаў. Ясна адно: пераацаніць маштабнасць дадзенай падзеі немагчыма. З гэтай нагоды "Тут і цяпер" вырашыла апытаць як экспертаў, так і простых беларусаў.




**АНТОН АСТАПОВІЧ,
СТАРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА ДОБРААХВОТНАГА ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ:**

## "АКРАМЯ ШКОДЫ ГЭТАЕ ПАЎСТАННЕ НІЧОГА НЕ ПРЫНЕСЛА".

— Для мяне гэтае паўстанне афарбавана ў два колеры: квінтэсенцыя гераізму, з аднаго боку, і квінтэсенцыя безразважнасці, з другога. Таму што пачынаць паўстанне малакольскаснымі сіламі, непадрыхтаванымі, дрэнна ўзброенымі супраць вялікай махіны Расійскай імперыі азначае безразважнасць.

Безумоўна, я здымаю капялюш перад гераізмам паўстанцаў. Але, шчыра кажучы, акрамя шкоды гэтае паўстанне нічога не прынесла. Прынамсі, на тэрыторыі Беларусі.

У той час толькі пачаў станавіцца літвінскі рух, які ўключаў у сябе ўсе культуры (у тым ліку польскамоўную, якая існавала тут ад XVII стагоддзя). Нашы арыстакратычныя слаі пачалі ўжо звяртаць увагу на традыцыйную беларускую культуру. Пачалося вывучэнне этнаграфіі, з'явілася фальклярыстыка. Нават былі зроблены спробы з боку эліты карыстацца беларускай мовай у літаратурных творах. Скalіся ўмовы для адраджэння беларушчыны менавіта зверху… І паўстаннем усё гэта было перакрэслена. З боку расійскіх улад пачалася рэакцыя. Усё, што было звязана з літвінізмам і краёвым патрыятызмам, было абвешчана праявай польскага сепаратызму. Беларушчына была прыдушана. Той жа Віленскі музей старажытнасцей, які збіралі браты Тышкевічы, быў канфіскаваны і перададзены ў расійскія музейныя зборы. Закрыты былі перыядычныя выданні — той жа "Кур'ер Віленскі", які быў інфармацыйным асяродкам у гэтай плыні (вельмі папулярнае выданне, якое рэдагаваў Адам Кіркор). Рэакцыя на паўстанне знішчыла ўсё гэта.

### АФІЦЫЙНА І ДАСЛОЎНА

**Паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі (1863—1864) — паўстанне нацыянальна-рэвалюцыйных сіл на частцы зямель колішняй Рэчы Паспалітай супраць расійскага панавання і за аднаўленне Рэчы Паспалітай (якую разумелі як Польшчу) у межах 1772 г.**

**У рускай гістарыяграфіі — Другое польскае паўстанне (1863—1864) або мяцеж, польскай гістарыяграфіі — Студзеньскае паўстанне, у частцы беларускай гістарыяграфіі — паўстанне Кастуся Каліноўскага (у кантэксце выдзялення з агульнага паўстання паўстанцкіх дзеянняў на тэрыторыі Беларусі).**

**З матэрыялаў Вікіпедыі.**

**СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ, МАСТАЦТВАЗНАЎЦА:**

## "ГЭТАЕ ПАЎСТАННЕ ВЫЗВАЛІЛА БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСТВА".

— Удзельнікамі паўстання былі мае продкі па матчынай і бацькавай лініі. Таму для мяне гэта не абстракцыя, а частка майго радаводу. І на чым баку я магу быць? На баку сваіх сваякоў ці на баку іх карнікаў? Што тычыцца страт, якія панёс край, то яны адносна іншых войнаў былі ўжо і не такія вялікія. Але былі праведзены радыкальныя рэформы на карысць сялянства: зменшаны памер выкупу і гэтак далей. Крывёй паўстанцаў былі набыты больш выгадныя ўмовы выхаду беларускага сялянства з прыгону. З мэтай адцягнуць ад паўстання сялянскую масу, якая складала да 18% у паўстанцкіх атрадах, улады пайшлі на значныя саступкі. Каб не самаахвярнасць паўстанцаў, то працэс паўставання незалежнага сялянства быў бы надта замаруджаны. Расія інтэнсіфікавала будаўніцтва праз Беларусь чыгунак, што непасрэдна звязана з вынікамі паўстання. Каб не было чыгункі праз Гародню, то невядома чым скончылася б паўстанне. А так, дзякуючы чыгунцы, расейцы маглі перакідваць вялікія войскі. Пасля паўстання стала ясна, што чыгунка ў гэтым краі — не проста транспартная артэрыя, але і каласальны палітычны рычаг. У выніку дзясяткі тысяч беларусаў атрымалі магчымасць заробку ў сябе на радзіме, працуючы на чыгунцы. Менавіта ў асяроддзі чыгуначных інжынераў і чыноўнікаў і вырасла наша беларуская інтэлігенцыя: і ўдзельнік паўстання Янка Лучына, і сын удзельніка паўстання Альберт Паўловіч, і Максім Багдановіч, і Уладзіслаў Галубок. Усіх не пералічыш…

**АЛЕСЬ СМАЛЯНЧУК, ГІСТОРЫК:**

## “КАЛІНОЎСКІ — ГАЛОЎНАЯ ФІГУРА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАМЯЦІ”.

— Тут ёсць гістарычны момант і момант нацыянальнай памяці. Апошнюю сёння сёння немагчыма ўявіць без гэтага змагання “за вольнасць нашу і вашу”, без постаці Каліноўскага. Для мяне гэта абсалютны пазітыў у беларускай гісторыі. Як толькі зніклі расійскія ўлады ў 1916 годзе (Вільня, часы нямецкай акупацыі, адсутнасць расійскай цэнзуры), беларусы загаварылі пра Каліноўскага. А потым ён вярнуўся з пэўнага нябыту і стаў беларускім героем. Для беларускай нацыянальнай памяці вобраз Каліноўскага вельмі важны. Паглядзіце на вынікі шматлікіх апытанняў, што праводзяцца на тэму галоўных гістарычных асоб. Каліноўскі звычайна займае першае месца разам з Францыскам Скарынам і Ефрасінняй Полацкай.

**ВАЛЯНЦІНА БАШЛАКОВА, НАСТАЎНІЦА ГІСТОРЫІ (ГОМЕЛЬ):**

## “БЕЗ ГЭТАГА ПАЎСТАННЯ НЕ БЫЛО Б СЁННЯШНЯЙ БЕЛАРУСІ”.

— За сто папярэдніх гадоў беларушчына дала выразную ацэнку гэтаму паўстанню. Той вызваленчы пафас, закінуты “Мужыцкай праўдай” у народныя масы, выгадаваў нашаніўцаў першай пары. Бацька Івана і Антона Луцкевіча — герой паўстання; Францішак Багушэвіч — таксама. І памяць пра гэты геразім спрычынілася да стварэння той першай “Нашай Нівы” і, адпаведна, усёй беларушчыны, якую мы маем сёння. Гэтага паўстання не магло не быць. Менавіта праз нашу тэрыторыю прайшлі асноўныя баі паўстання Касцюшкі. Менавіта праз Беларусь хадзіў Напалеон. Менавіта тут было паўстанне 1831 года. Гэта азначае, што прадзеды і дзяды гэтых паўстанцаў прымалі ўдзел у баях. А “Мужыцкая праўда” і сёння не страціла сваёй актуальнасці.

**ІРЫНА БАБІЧ, НАСТАЎНІЦА (МАГІЛЁЎ):**

## “НЕАЦЭННЫ СКАРБ ДЛЯ НАШАГА МАСТАЦТВА”.

— Прыгадайце вобраз Каліноўскага ў Куляшова, творчасць Танка, “Каласы пад сярпом тваім” Караткевіча. Гэта таксама сотні твораў жывапісу, графікі, скульптуры. У тым ліку лепшыя творы Заіра Азгура. А таксама фільм 20-х гадоў. Гэта неацэнны скарб. А ўявіце, каб гэтага не было. Паспрабуйце з нацыянальнай скарбонкі выняць творы, прысвечаныя паўстанню. І што тады ў нас застанецца? На паўстанцкай рамантыцы выхавалася не адно пакаленне беларусаў. Тое, што вобраз Каліноўскага (не рэальная асоба, а вобраз), — гэта каласальны скарб нашай культуры.

**АПЫТАННЕ ПРАВЕЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**



# ЯК НАС ШТОМЕСЯЦ “КІДАЮЦЬ” НА $200




*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Мы платим совсем другие деньги за коммунальные услуги, детские сады и многое другое. Если пересчитать нашу зарплату по паритету покупательной способности, то это будут абсолютно другие цифры.

## КАБ ПАСПЯВАЛІ СЫПАЦЦА ЧЫНОЎНІЦКІЯ СЛОВЫ

Карацей, беларусам трэба трымаць кішэні як мага шырэй, каб туды паспявалі сыпацца… не, не грошы, а словы чыноўнікаў рознага ўзроўню. Хаця таму ж Тозіку было б някепска наведаць, да прыкладу, крамы Варшавы ці Беластока, і, даведаўшыся пра тамтэйшыя кошты, зразумець, чаму яго суайчыннікі цягнуць ежу, тэхніку ды іншыя тавары з Польшчы ў Беларусь.

Прапаноўваю спадару віцэ-прэм’еру іншую “матэматыку”. Беларусы ўжо мелі, паводле афіцыйных звестак, сярэдні заробак вышэй за 500 долараў два гады назад. Аднак у выніку дзеянняў Аляксандра Лукашэнкі і яго падначаленых у краіне здарылася рэкордная дэвальвацыя. Адпаведна заробкі ў доларавым эквіваленце ляснулі ўдвая.

Напярэдадні мінулых прэзідэнцкіх выбараў Лукашэнка абяцаў, што ў 2015 годзе сярэднестатыстычны беларус будзе атрымліваць 1000 долараў на месяц. Зыходзячы з гэтага, напрыканцы 2012-га можна было чакаць сярэдняга заробку ў памеры каля 750 долараў (ізноў жа з улікам пераднавагодніх заахвочванняў).

Вось і глядзіце: пачынаючы з сярэдзіны 2011-га нас “кідаюць” дзесьці на 200 долараў штомесяц. Калі сярэдні заробак павінен быў ужо знаходзіцца на ўзроўні 550 долараў — было 350, потым, адпаведна, 600 і 400, і гэтак далей, ажно да сённяшніх прагнозных 750 і рэальных 550.

Як вам такая “арыфметыка”?

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

### ДАРЭЧЫ

Сярэдняя зарплата ў Мінску ў снежне 2013 года павінна дасягнуць $750–770 у эквіваленце. Аб гэтым паведаміла сёння старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама Жанна Рамановіч на аператыўнай нарадзе.

У лістападзе 2012 года мінчукі ў сярэднім атрымлівалі Br5 млн. 448,5 тыс. ($635 у эквіваленце), а ў студзені-лістападзе сярэднямесячная зарплата дасягнула Br4 млн. 655,2 тыс. Плануецца, што ў 2013 годзе сярэднямесячная заработная плата ў параўнанні з 2012-м ўзрасце на $130 у эквіваленце.

*«З улікам сітуацыі, якая дынамікі прагназуемы ўзровень сярэднямесячнай заработнай платы па Мінску ў 2012 годзе складзе Br4 млн 794,9 тыс. Мяркую, што даведзены паказчык намінальнай сярэднямесячнай заработнай платы на 2013 год у памеры 5 млн 980 тыс. таксама будзе забяспечаны…»*, — адзначыла Рамановіч.

# ДЗЯРЖАЎНЫЯ САЙТЫ АДСТАЮЦЬ

**Ці павінны рэгулярна абнаўляцца навіны на сайтах дзяржаўных органаў? Хто звяртаецца да чыноўнікаў па электроннай пошце?**

Чаму беларускія чыноўнікі не заводзяць блогі і не маюць старонак у "Фэйсбуку"? Ці праўда, што папраўкі ў Закон «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі» накіраваны на інфармацыйную адкрытасць дзейнасці дзяржорганаў?

У гэтых пытаннях мы разбіраліся разам з медыяэкспертам **Паўлюком Быкоўскім**.



## ЧАМУ МІНІСТРЫ НЕ ВЯДУЦЬ БЛОГІ

**Паўлюк Быкоўскі** сумняваецца, што ў законапраекце з назвай «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі», які сёння разглядаецца, гаворка будзе ісці менавіта аб адкрытасці дзяржаўных органаў.

*«Праект закона мне яшчэ не атрымалася ўбачыць,* — кажа Паўлюк. — *Але, мяркуючы па назве, у нас ужо была спроба распрацоўкі верхняй палатай Нацыянальнага сходу законапраекта з такой назвай, і там гаворка якраз ішла пра абарону інфармацыі. Не пра адкрытасць дзяржаўных органаў, а пра тое, якую інфармацыю трэба абараніць і не даць грамадству, якія ўвесці абмежаванні. Таму ў дадзеным выпадку ў мяне ёсць занепакоенасць, што магчымы і такі варыянт...».*

Як павінны развівацца адносіны дзяржаўных органаў з грамадствам з пункта гледжання распаўсюджвання інфармацыі? Досвед якіх краін у гэтым пытанні Беларусь можа запазычыць?

Быкоўскі лічыць, што раўняцца варта на Эстонію.

*«Там практычна любую інфармацыю грамадзянін можа атрымаць у электронным выглядзе,* — нагадвае медыяэксперт. — *Ёсць варыянт электроннага ўрада ў Расіі, дзе такія функцыі значна абмежаваны, але разам з тым кожны грамадзянін можа паглядзець, як расходуюцца бюджэтныя грошы, што запланавана ў бюджэце, як гэта выдаткоўваецца, аж да ўзроўню самакіравання. Гэта досыць пазітыўны вопыт, і на яго таксама можна звярнуць увагу».*

Нельга сказаць, што ў Беларусі інфармацыя пра дзяржорганы цалкам закрыта, але падчас нават прафесіяналам бывае няпроста яе знайсці. Да таго ж далёка не ўсе беларусы ведаюць, што чыноўнікі абавязаны рэагаваць на іх электронныя звароты.

*«Трэба не проста прадастаўляць такую магчымасць, але і займацца асветай, распавядаць людзям, што такая магчымасць існуе і як яна рэалізуецца,* — выказвае свой пункт гледжання Паўлюк Быкоўскі. — *Медыяграматнасць беларускіх грамадзян яшчэ не на вельмі высокім узроўні, і таму хтосьці ведае, што ў Мінгарвыканкам можна звярнуцца па электроннай пошце, і карыстаецца гэтай магчымасцю, а хтосьці не ведае і не патрабуе рэалізацыі гэтага права ў іншых галінах, раёнах краіны. Гэта кансервуе сітуацыю і не дае ніякага развіцця».*

Дзяржаўныя структуры — гэта перш за ўсё людзі. У многіх краінах чыноўнікі вядуць свае блогі, актыўна каментуюць нейкія падзеі, шчыра расказваюць пра свае будні ў сацыяльных сетках, выкладваюць цікавыя, а не толькі афіцыйныя фотаздымкі. У Беларусі блогі чыноўнікаў і іх прысутнасць у сацыяльных сетках вялікая рэдкасць.

*«У нас няма мэраў і губернатараў, ёсць старшыні гар- і аблвыканкамаў, якія прызначаюцца вышэйстаячым начальствам,* — акцэнтуе ўвагу Паўлюк. — *Яны не з'яўляюцца палітычнымі фігурамі і ўласных думак не маюць, як пры самадзяржаўі. Ім няма чаго сказаць, таму іх блогі і нават інтэрв'ю рэдка бываюць змястоўнымі».*

Паўлюк Быкоўскі па родзе дзейнасці даволі часта заходзіць на сайты дзяржорганаў. Які з афіцыйных сайтаў, на яго думку, на сёння самы сучасны?

*«Менш за ўсё прэтэнзій у мяне да сайта pravo.by,* — адразу адказвае эксперт. — *Я не вельмі задаволены тым, як там прадстаўлена інфармацыя, паколькі яе вельмі цяжка знайсці, а спрошчаны варыянт пошуку ёсць толькі ў платнай версіі, якой я таксама карыстаюся, але ў цэлым там рэалізаваны магчымасці і зваротнай сувязі. У прынцыпе, калі навучыць людзей шукаць інфармацыю ў інтэрнэце, то гэтую інфармацыю знайсці можна. Што тычыцца іншых арганізацый, то звычайна зваротная сувязь там ускладнёна, і калі чалавек звяртаецца, то ён часта атрымлівае менавіта адпіскі, а не нейкую канкрэтную інфармацыю, якая яго цікавіць».*

**ДАРЭЧЫ**

## ШТО АБЯЦАЮЦЬ ДЭПУТАТЫ

**У Беларусі плануецца прадастаўляць грамадзянам больш інфармацыі аб рабоце дзяржорганаў. Пра гэта на мінулым тыдні заявіў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Дзмітрый Харытончык.**

Па яго словах, на вясенняй сесіі ў Авальнай зале плануецца разгледзець законапраект аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон "Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі".

Гэты закон быў прыняты ў 2008 годзе і рэгуляваў пытанні, звязаныя з пошукам, апрацоўкай і захоўваннем інфармацыі.

*«Змены ў закон у першую чаргу накіраваны на інфармацыйную адкрытасць дзейнасці дзяржорганаў»,* — цытуе belta.by старшыню пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па прамысловасці, паліўна-энергетычным комплексе, транспарце і сувязі. Харытончык тлумачыць, што ў законапраекце ўдзелена ўвага абнародаванню інфармацыі на афіцыйных сайтах дзяржаўных органаў. Напрыклад, прапаноўваецца, каб па выніках кожнага года размяшчаліся звесткі аб выніках работы за мінулы перыяд па асноўных напрамках дзейнасці. Прапаноўваецца таксама ўдасканальваць спосабы распаўсюджвання і прадастаўлення агульнадаступнай інфармацыі.

## ПРА ШТО ДУМАЕ МІНІСТР ГАНДЛЮ

Мы зайшлі на сайты некаторых міністэрстваў і ведамстваў і паглядзелі, як даўно там абнаўляліся навіны, ці адразу там можна знайсці форму для электроннага звароту і якія пытанні часцей за ўсё задаюць людзі.

Што атрымалася — глядзіце ў табліцы, размешчанай ніжэй.

**МАРЫНА МІТ**

# НА ЦЭЛАЕ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

| САЙТ | ШТО ЗАЎВАЖЫЛІ |
|---|---|
| **МІНІСТЭРСТВА АРХІТЭКТУРЫ І БУДАЎНІЦТВА** | У гэтым годзе навіны на сайце абнаўляліся амаль кожны дзень.<br>Ёсць інтэрнэт-прыёмная, але звярнуцца ананімна не атрымаецца: ёсць абавязковыя палі для запаўнення, у тым ліку нумар пашпарта, імя, хатні адрас і тэлефон. |
| **МІНІСТЭРСТВА ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ** | Навіны з'яўляюцца далёка не кожны дзень.<br>Трэба заўважыць, што сайт не вельмі зручны для карыстання: чалавек, які зайшоў першы раз, не адразу знойдзе, напрыклад, тую ж статыстку; ды і з выступамі міністра і яго намеснікаў, у тым ліку з іх інтэрв'ю ў прэсе — праблема.<br>Перш чым напісаць зварот, наведвальнікам прапаноўваюць азнаёміцца з пэўнымі правіламі і законам "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб". А яшчэ прапаноўваюць пераканацца, што "адказу на ваша пытанне няма ў раздзелах «Пытанне — адказ» і «У сферы абароту зброі».<br>Пры гэтым варта адзначыць, што пытанні ў рубрыку "Пытанне — адказ" усё ж такі задаюць ананімы, бо там няма ніводнага подпісу асобы, якая задае пытанні прадстаўнікам МУС. |
| **МІНІСТЭРСТВА ЖЫЛЛЁВА-КАМУНАЛЬНАЙ ГАСПАДАРКІ** | Рубрыка "Навіны" ёсць, але калі націскаеш на спасылку, то чамусьці трапляеш адразу на сайт Савета Міністраў.<br>Здавалася б, такое важнае для людзей ведамства, павінен быць пастаянны дыялог з грамадствам, функцыянаваць нейкі форум, аднак… Толькі суцэльныя дырэктывы і формы ведамаснай справаздачы. Ёсць, праўда, спасылка "Пытайцеся — адкажам", але ўсе пытанні там, як і на сайце МУС, абязлічаныя. |
| **МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ** | Навіны аднаўляюцца час ад часу. Па рубрыках сайт разбіты быццам бы і няблага, але...<br>Напрыклад, апошні водгук у рыбрыцы *"Отзывы и ответы на вопросы"* — *"Благодарность медицинским сотрудникам госпиталя МВД Республики Беларусь отделению гинекологии"* датаваны 20.09.2012.<br>Здзівіла і спасылка на тое, што *"Звароты і перапіска ў электронным выглядзе, што накіроўваюцца ў Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, мінаючы рапанаваную форму электроннага звароту, да разгляду не прымаюцца"*. Пры гэтым тэкст звароту не можа змяшчаць больш за 2500 знакаў (гэта старонка з хвосцікам). |
| **МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ** | Калі не памыляемся, то беларускамоўным сайт стаў пры папярэднім міністры Паўлу Латушку. Аднак рубрыка "Навіны" на сайце і пры ім напаўнялася, мякка кажучы, не вельмі добра, а цяпер дык увогуле вісіць толькі 5 навін *(па стане на 20 студзеня, за год)*. |
| **МІНІСТЭРСТВА ПА ПАДАТКАХ І ЗБОРАХ** | Навіны абнаўляюцца кожны дзень, нават некалькі разоў на дзень.<br>Сайт насычаны рознымі карыснымі для падаткаплацельшчыкаў формамі, спасылкамі, тлумачальнікамі. На самым бачным месцы — спасылкі на тэлефонную даведачную службу сістэмы падатковых органаў. На першы погляд, сайт даволі інфармацыйны і сапраўды адкрыты для людзей. |
| **МІНІСТЭРСТВА ПРАМЫСЛОВАСЦІ** | Навіны з'яўляюцца не кожны дзень.<br>Мяркуючы па рубрыцы "Пытанне — адказ", апошні раз пытанні сюды дасылаліся... два гады назад. І гэта пры тым, што ёсць асобная спасылка *"Электронные обращения"*. |
| **МІНІСТЭРСТВА ГАНДЛЮ** | Міністр гандлю (ці яго падначаленыя), відаць, доўга святкавалі Новы год, бо яшчэ днём у пятніцу, 18 студзеня, па цэнтры вісела віншаванне міністра з Новым 2013 годам. Прычым пад віншаваннем было шчыра напісана: "Последнее обновление (суббота, 29 декабря 2012).<br>Пасля абеду, у тую ж пятніцу, тут з'явілася абвестка пра прамую лінію, якую ладзіць 21 студзеня ўпраўленне бытавога абслугоўвання Міністэрства гандлю на тэму «Хімчыстка і паслугі пральняў. Якасць і тэрміны аказання паслуг».<br>Цяпер на сайце напісана: "Последнее обновление — 18 января 2013".<br>Як кажуць, без каментарыяў. |
| **САВЕТ РЭСПУБЛІКІ** | Здаваўся б, ну дзе шукаць адкрытасць, як не на сайтах Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі? Але…<br>Навіны сайта абмяжоўваюцца сухімі, літаральна ў некалькі радочкаў паведамленнямі аб тым, хто і дзе з так званых сенатараў правёў асабісты прыём і з кім сустрэўся старшыня Савета Рэспублікі А.Рубінаў.<br>Форма для электроннага звароту ёсць. |
| **ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ** | Адразу варта заўважыць, што прамых дэпутацкіх тэлефонаў на сайце няма. Толькі тыя, якія з'яўляюцца кантактнымі ў выбарчай акрузе. Апеляваць па некаторых з іх безвынікова. Калі дэпутаты сапраўды народныя выбраннікі, то чаго ім хавацца ад народа? Чаму не хочаце даваць на сайце службовы мабільны тэлефон для людзей? Так і сувязь з народам была б прасцейшай, бо не сакрэт, што далёка не ўсе жыхары рэгіёнаў маюць інтэрнэт альбо ўмеюць ім карыстацца.<br>На сайце змяшчаюцца статыстычная матэрыялы аб рабоце дэпутатаў у выбарчых акругах: колькі яны прынялі выбаршчыкаў, арганізавалі прыёмаў грамадзян, разгледзелі зваротаў, у тым ліку і вусных, і нават колькі разоў засвяціліся ў сродках масавай інфармацыі. Але, на вялікі жаль, уся гэтая інфармацыя не персаніфікаваная, а агульная. Пры гэтым дадаюцца кароткія паведамленні аб тым, хто з дэпутатаў правёў прыём і куда выехаў. Але гэта, зноў жа, казённыя сухія паведамленні. |

# ЧАМУ ВЫМІРАЕ "САЦЫЯЛЬНАЯ"

Паводле чарговага штогадовага выпуску "Міжнароднай кнігі фактаў", апублікаванага ЦРУ ЗША, у Беларусі паказчык чалавечай смяротнасці складае 13,9 на 1000 чалавек. Па гэтым паказчыку Беларусь займае 12 месца ў свеце.

Увесь час нас пераконваюць у тым, што мы жывём добра і будзем жыць яшчэ лепш. Пра гэта нам кажа шматтысячнае войска дзяржаўных ідэолагаў, гэта сцвярджаюць штодня дзяржаўныя тэлеканалы, гэта не перастае паўтараць прэзідэнт. Між тым Беларусь знаходзіцца ў зоне вельмі прыкрай статыстыкі: мы выміраем, мы проста фізічна не працягваем жыццё, і колькасць беларусаў скарачаецца ўвесь час.

"Калі ў яго ёсць зямля, дом, сядзіба, якія патрабуюць штодзённага догляду, тады наўрад ці чалавек будзе думаць пра суіцыд і не будзе ўпэўнены ў тым, ці патрэбны яму дзеці. Гэта ўжо іншы ўзровень упэўненасці ў заўтрашнім дні, іншыя перспектывы".

## АД ЧАГО Ж БЕЛАРУСЫ МРУЦЬ?

Урач хуткай дапамогі з 28-гадовым стажам Аляксандр Валчанін кажа, што, паводле афіцыйнай статыстыкі, большасць людзей у нас паміраюць ад старасці. Аднак сам ён у гэтай статыстыцы вельмі сумняваецца. "На першае месца сёння выходзяць анкалагічныя захворванні і захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы", — кажа ён.

Больш за тое, па прагнозах Валчаніна, анкалагічныя захворванні як праблема смяротнасці хутка выйдуць на першае месца ў Беларусі. "Гэта звязана і з наступствамі Чарнобыля, і з незбалансаваным харчаваннем, і з шэрагам іншых праблем", — адзначае Валчанін.

Між тым праблему Чарнобыля, як запэўніваюць афіцыйныя ўлады, мы ўжо вырашылі, а якія праблемы з харчаваннем могуць быць у "сацыяльнай дзяржаве"?

"Што тычыцца сардэчных захворванняў, то гэта фактар выключна сацыяльны. Людзі ў большасці сваёй сталі больш нервовымі і больш псіхапатычнымі. 28 гадоў працую на «хуткай» і ўсё часцей сутыкаюся з наступным: медыкі яшчэ ў кватэру не зайшлі, а да іх ужо прэтэнзіі — чаму так доўга ехалі? Хаця, калі ўзяць Жодзіна, то час прыбыцця на выклік там у сярэднім тры-чатыры хвіліны, бо горад кампактны", — кажа Валчанін.

На яго думку, у Беларусі наогул пануе нездаровая псіхічная атмасфера. "У часы СССР людзі былі больш добразычлівымі, спагадлівымі. Сёння беларусы вельмі эгаістычныя. Часам няўменне або немагчымасць вырашыць нейкую праблему прыводзіць да суіцыдаў і парасуіцыдаў (*спроба самагубства, якая ставіць канчатковай мэтай не смерць, а прыцягненне ўвагі.* — **Заўв. аўт.**), з гэтым звязаны і рост алкагалізацыі і наркаманіі насельніцтва", — дадае Валчанін.

Нездаровае навакольнае асяроддзе і нездаровая псіхалагічная атмасфера ў цэлым па краіне ўплывае і на смяротнасць. Але ж менавіта гэтыя фактары — клопат "сацыяльнай дзяржавы"!

## НЕСАЦЫЯЛЬНАЯ САЦЫЯЛЬНАЯ

Кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія" **Леанід Заіка** ўвогуле лічыць, што такога азначэння, як "сацыяльная дзяржава", існаваць не павінна. "Наогул, тэзіс аб сацыяльна арыентаванай дзяржаве — гэта глупства палітыкаў, светапоглядная непісьменнасць. Любая эканоміка працуе не на Марс і не на Сонца. Беларуская эканоміка не працуе на Злучаныя Штаты — яна працуе менавіта на беларускі соцыум і беларускага чалавека. Па-іншаму яна проста не ўмее", — лічыць Заіка.

Што ж тычыцца высокай смяротнасці, то, як прыгадаў Заіка, самы значны рост насельніцтва адзначаўся ў Беларусі ў 1994 годзе — у год прыходу да ўлады Лукашэнкі. Затым колькасць беларусаў стала зніжацца. "Наўрад ці гэта залежыць ад Лукашэнкі,

### ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

**Дарэчы, на першым месцы па смяротнасці знаходзіцца Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, на другім — Украіна. 11 месца займае Расія, 13 — Малі.**

**Як канстатуе ЦРУ, сярэдняя працягласць жыцця ў Беларусі — 71 год. Пры гэтым мужчыны ў сярэднім жывуць 66 гадоў, жанчыны — 77.**

**Сумная статыстыка ў нас і па самазабойствах. Афіцыйных даных аб колькасці суіцыдаў за 2012 яшчэ няма. Але ўсе канстатуюць, што пры рэгулярным зніжэнні гэтага паказчыка ўзровень самагубстваў на працягу ўжо многіх гадоў застаецца высокім: 27,5 выпадку самагубства на 100 тысяч насельніцтва ў 2008 годзе, 28,3 — у 2009, 26,1 — у 2010.**

**У 2011 годзе ў нас было 22,9 выпадка самагубства на 100 тыс. насельніцтва. Згодна з аналізам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, дзяржава з'яўляецца краінай з высокім узроўнем суіцыдаў, калі гэты паказчык перавышае 20 выпадкаў на 100 тысяч насельніцтва.**



*А нас усё менш*

# ДЗЯРЖАВА?



гэта сусветная тэндэнцыя. Людзі не хочуць размнажацца, баяцца браць на сябе такую адказнасць. Таму колькасць беларусаў паступова зніжаецца на 80, 60, 40 тысяч штогод», — кажа Заіка.

У высокім паказчыку суіцыдаў, як кажа Заіка, вінаваты "дэвіянтныя паводзіны, алкагалізм і наркаманія". А такія паводзіны ўзнікаюць таму, што "ўлада ставіцца да людзей як да наёмных работнікаў". "Што ў чалавека сёння ёсць? У лепшым выпадку, кватэра і тэлевізар — гэта такая ўмоўная ўласнасць, авалодаўшы якой, чалавек не ведае, чым заняцца. А цяпер і для таго, каб зарабіць на кватэру, трэба некуды ехаць на заробкі, таму што 1200 долараў за квадратны метр у Беларусі не заробіш. І што рабіць чалавеку, не маючы перспектыў? Співаюцца і суюць галаву ў пяцельку", — кажа Заіка.

## ВЫРАТАВАННЕ — У КАРАНЯХ

Такім чынам, паводле экспертаў, адсутнасць перспектыў у нашай дзяржаве і абыякавасць да патрэб чалавека прыводзяць да таго, што людзям нецікава жыць, нецікава нараджаць дзяцей, і ўвогуле нецікавай становіцца гэтая рэальнасць. А нічога іншага чалавеку дзяржава прапанаваць не можа.

Паводле меркавання Заікі, выправіць сённяшнюю сітуацыю можа толькі наяўнасць уласнасці ў чалавека. "Калі ў яго ёсць зямля, дом, сядзіба, якія патрабуюць штодзённага догляду, тады наўрад ці чалавек будзе думаць пра суіцыд і не будзе ўпэўнены ў тым, ці патрэбны яму дзеці. Гэта ўжо іншы ўзровень упэўненасці ў заўтрашнім дні, іншыя перспектывы", — кажа Заіка.

То бок, па яго меркаванні, дастаткова беларусам вярнуцца ва "ўлонне прыроды", як усё будзе добра: паветра стане чысцейшым, жыццё — спакайнейшым, і з'явіцца ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Але ці дазволіць гэта зрабіць "сацыяльная" дзяржава?

**СЯРГЕЙ КОЎШ.**

# ЦІ САПРАЎДЫ БЕЛАРУСЬ ФАРМУЕ 30% БЮДЖЭТУ ЛІТВЫ?

**Беларускія і літоўскія эксперты каментуюць выказванне Аляксандра Лукашэнкі наконт эканамічнага ўплыву на нашых суседзяў.**

*"30% бюджэту Літвы фарміруецца Беларуссю. У 2015 годзе, як мне дакладваюць, Еўрасаюз не будзе датаваць Літву, як датуе зараз, на $2-3 мільярды. Сёння ў Літве толькі вар'ят можа пайсці на тое, каб страціць партнёрства з Беларуссю. Да дзесяці мільёнаў тон грузаў мы пераваліваем у прыбалтыйскіх партах, парты жывуць толькі за кошт гэтага"*, — заявіў 15 студзеня **Аляксандр Лукашэнка**.

У Літве гэтую заяву прынялі са здзіўленнем. На думку літоўскага палітолага Лаўрынаса Касцюнаса, Беларусь сапраўды мае эканамічны ўплыў на Літву. Але не такі вялікі, як гавораць беларускія ўлады.

**Лаўрынас Касцюнас**: *"Не трэба гэта гіпербалізаваць. Такога вялікага ўплыву няма. Цяпер Беларусь трактуецца як зусім іншая геапалітычная катэгорыя. Цяпер Беларусь у Мытным саюзе. І ўжо такія рычагі, пра якія мы думалі 2-3 гады таму, дзейнічаць не будуць"*.

Паводле аглядальніка літоўскай бізнес-газеты Verslo zinios **Рытаса Стаселіса**, за транзіт беларускіх тавараў у 2012 годзе Літва атрымала 700 мільёнаў долараў. І яшчэ на мільярд закупіла беларускіх тавараў. Пры гэтым бюджэт Літвы складае каля 10 мільярдаў долараў, а ВУП краіны — 43 мільярды долараў. То бок экспарт з Беларусі разам з прыбыткам ад транзіту складае каля 17% бюджэту. А кіраўнік Беларусі гаворыць пра 30%...

**Рытас Стаселіс:** *"Не ведаю, адкуль з'явілася гэта легенда, чаму яна так эксплуатуецца. Можа спадару Лукашэнку лягчэй тлумачыць свае ўнутраныя эканамічныя праблемы альбо павышаць сваю палітычную вагу як лідара ў рэгіёне. Але я магу пра гэта толькі гадаць"*.

У той час беларускі эканаміст Леанід Заіка заяву пра "30% бюджэту" называе "хутчэй, палітычнай і прапагандысцкай". І тлумачыць чаму.

**Леанід Заіка:** *"Магу заўважыць, што траціна бюджэту Літвы — субсідыі з боку ЕС. Калі возьмем сцвярджэнне беларускіх палітыкаў, што яшчэ адна траціна — беларуская, то атрымоўваецца, што самі літоўцы дайшлі да такой мізерабельнай сітуацыі, што могуць ствараць свой бюджэт толькі на траціну"*.

Меркаванне пра ўплыў Беларусі на літоўскую эканоміку **Рытас Стаселіс** чуе не толькі ад беларускіх уладаў, а яшчэ і з боку беларускіх экспертаў, з якімі ён кантактуе. І разам з тым лічыць, што такія заявы мусяць выклікаць непакой, хутчэй, у самой Беларусі, чым у Літве.

**Рытас Стаселіс:** *"З'яўляецца тэма, што калі Беларусь закрые мяжу, транзіт, экспарт у Літву, то літоўская эканоміка абрынецца. Гэта несур'ёзна. Літоўская эканоміка не абрынецца. Магчыма, у самой Беларусі, калі будуць прымацца рашэнні, пабудаваныя на такіх аргументах, будуць праблемы"*.

**ЗМІЦЕР КУСТОЎСКІ**




*За соль "Беларуськалія" б'юцца многія парты*

# ДА 150-ГОДДЗЯ ПАЎСТАННЯ КАЛІНОЎСКАГА ЛІТОЎСКІ БАНК ВЫПУСЦІЎ СРЭБРАНУЮ МАНЕТУ

Калекцыйная срэбраная манета, якасці proof і наміналам у 50 літаў, каштуе ў касах Літоўскага банка 175 літаў (разам з упакоўкай). Манета выпушчаная тыражом у 3000 шт. і ад 22 студзеня знаходзіцца ў продажы, піша Vilnia-by.com.







*На фота: злева - аверс манеты, справа - рэверс*

Мастакі **Відмантас Валентас** (Vidmantas Valentas) і Гядрюс **Паўлаўскіс** (Giedrius Paulauskis) на аверсе ў цэнтры манеты выканалі герб паўстання 1863 года. На ім — аб'яднаныя сімвалы Польшчы, Літвы і Украіны. На рэверсе мастацкімі сродкамі адлюстравана зброя паўстанцаў — шабля і косы.

Да манеты дадаецца рэкламны буклет з невялікай гістарычнай нататкай пра падзеі 1863-64 гг. Аўтар гістарычнай даведкі доктар Дарюс Сталюнас адзначае, што паўстанне хутка стала тэмай для палітычных і гістарычных дэбатаў:

- У рускай імперскай традыцыі паўстанне найчасцей называюць бунтам альбо польскім паўстаннем і асуджаюць яго. Кансерватыўна настроеныя прадстаўнікі польскага грамадства таксама асуджаюць паўстанне як бессэнсоўнае і няздольнае прынесці якой-кольвек карысці для грамадства. Аднак у польскай традыцыі, дзе падзеі 1863-64 гг. звычайна называюць Студзеньскім паўстаннем, замацавалася яго праслаўленне як бясстрашная бітвы за свабоду. Паўстанне было важным і як сведчанне слушнасці Польскай нацыянальнай ідэі.

Меркаванне літоўскага грамадства некалькі разоў мянялася. Напрыканцы 19 — у першай палове 20 ст. падзеі 1863-64 гг. называліся польскім паўстаннем, якое мела на мэце аднаўленне Польшчы (Рэспублікі Абодвух Народаў), бо лічылася, што паўстанне не мела нічога агульнага з літоўскай палітычнай праграмай. За савецкімі часамі паўстанне падавалася як барацьба сялян супраць царызму і польскіх памешчыкаў-прыгнятальнікаў. Разам з тым апазіцыйныя гісторыкі фармавалі канцэпцыю, што паўстанцы вялі барацьбу за свабоду Літвы. Аднак само па сабе паняцце свабоды альбо не аналізавалася, альбо нярэдка разумелася як спроба стварэння нацыянальнай літоўскай дзяржавы. Такая інтэрпрэтацыя паўстання даволі нярэдка сустракаецца і ў нашы дні.

**ЛАРЫСА ШАПАВАЛАВА**

Аднак у польскай традыцыі, дзе падзеі 1863-64 гг. звычайна называюць Студзеньскім паўстаннем, замацавалася яго праслаўленне як бясстрашная бітвы за свабоду. Паўстанне было важным і як сведчанне слушнасці Польскай нацыянальнай ідэі.



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 24.01.13
Тыраж 299 экзэмпляраў